Кошт паштовай перасылкі
аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 2. Вільня, Нядзеля, 17-га лютага 1924 г. Год I.

**У гэтым нумары 6 страніц.**

## Паваротны пункт.

У палове студзеня ў Менску адбыўся Пяты Усебеларускі Зьезд Радаў, які бязумоўна зьявіцца паваротным пунктам у гісторыі будаваньня беларускай дзяржаўнасьці. У сьлед за пастановамі Гомельшчыны і Вітабшчыны аб аб'яднаньні з дасюлешняй шасьціпавятовай Радавай Беларусяй Пяты Зьезд Радаў цьвёрда і рашуча паставіў пытаньне аб аб'яднаньні Беларусі на парадак дня. Зьезд адмовіўся выбіраць новы ўрад, пакуль ня будзе скліканы Надзвычайны Зьезд Радаў усяе Усходняе Беларусі, які пачне новы этап у гісторыі Беларусі.

Пяты Усебеларускі Зьезд Радаў закончыў першы—самы цяжкі пэрыяд у гісторыі Радавай Беларусі. Трудным і цярністым быў гэты шлях, як наагул увесь шлях вызваленьня беларускага працоўнага народу. У нязвычайна цяжкіх вонкавых і ўнутраных абставінах, матарыяльных і маральных варунках беларускі працоўны народ распачаў будаваньне сваей дзяржаўнасьці. Беднасьць матарыяльная, зьяўляўшаяся вынікам паваеннай разрухі, зьнішчэньня змагаўшыхся на абшарах нашай зямелькі ў працягу шасьцёх гадоў арміяў, йшла побач з беднасьцю культурнаю, зьяўляўшайся вынікам векавога чужацкага паняволеньня. Трэба было закладаць фундамант, як сацыяльнае эканоміі, так і маладое культуры. Тая невялічкая жменя беларускіх культурных працаўнікоў, якая раней распачала працу над адраджэньнем беларускага народу, сілаю вонкавых абставін распылілася, апынулася ў розных кутках Бацькаўшчыны, аддзеленых адзін ад другога гранічнымі слупамі, а часта і па-за межамі роднай старонкі на чужыне.

Але беларускі працоўны народ—сяляне, работнікі і вышаўшая з работніцка-сялянскай масы інтэлігенцыя — бліскуча выявіў сваю жыцьцяздольнасьць. Нязвычайна напружаная праца мазалістых рук дала неспадзяваныя вынікі. Ахапіўшы перш невялічкую частку нашай Бацькаўшчыны, беларуская культурная праца крок за крокам стала пашырацца на ўсё новыя абшары. Менск—палітычны і культурны цэнтр маладое рэспублікі — стаў тым прыцягваючым пунктам, да якога імкнуліся застаўшыяся яшчэ ў сфэры маскоўскіх уплываў часткі нашай бацькаўшчыны, і цяпер аб'яднаньне Усходняй паловы нашай Бацькаўшчы мы можам лічыць дакананым фактам.

Найбольш трудная частка цярністага, але слаўнага шляху пройдзена. Шмат яшчэ працы ўперадзе, шмат перашкодаў трэба яшчэ асіліць, але ўжо няма такой сілы, якая-б змагла зьвярнуць беларускі народ з таго шырокага гістарычнага шляху, на які ён узышоў. Распачаўся новы этап дзяржаўнага будаўніцтва. Пасееныя зярняты даюць ужо буйныя ўсходы, зацьвітуць і закрасуюць. Мы верым, што работніцкія і сялянскія масы ўсяе Беларусі даб'юцца свайго і нацыянальнага і сацыяльнага вызваленьня, і эканамічнага і культурнага росквіту. Патрэбна толькі няўпынная, напружаная праца. А наш народ умее і любіць працаваць.

**Кумельган.**

## Сьвята Літвы.

Як дзень 25 сакавіка 1918 году, калі была абвешчана незалежнасьць Беларусі, зьяўляецца агульна-беларускім нацыянальным сьвятам,—так дзень 16 лютага зьяўляецца такім-жа нацыянальным сьвятам братняга нам літоўскага народу: гэта — ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Літвы.

Аднак, не аднолькавая доля спаткала гэтыя два важныя палітычныя акты. Незалежнасьці Беларусі ў тыя часы ня прызналі ані нямецкія акупацыйныя ўлады, ані дзяржавы антанты, ані Польшча, ані Радавая Расея. І толькі тады, калі ў Менску ўтварыўся беларускі камуністычны ўрад, Беларусь была прызнана, як асобная Радавая Рэспубліка, ды ўсяго ў межах шасьцёх паветаў Меншчыны. Заходняя Беларусь—Віленшчына, Горадзеншчына, Беласточчына, Наваградчына і Піншчына — апынулася пад уладай Польшчы і падзелена на некалькі ваяводзтваў. Гомельшчына (Магілёўшчына), Вітабшчына, Смаленшчына—увесь беларускі абшар на ўсход ад Меншчыны — да апошніх дзён быў далучаны да Маскоўшчыны. І толькі сёлета нашаму дзяржаўнаму ідэалу суджана было зрабіць два важныя заваяваньні: у склад Радавае Беларусі, якая зьяўляецца поўнапраўным сябрам Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік, увайшлі ўсе нашыя ўсходнія землі, а сьледам за гэтым, актам прызнаньня de jure Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік, аказалася прызнанай, ня толькі Нямеччынай і Польшчай, але і Англіяй, Аўстрыяй, Нарвэгіяй і Італіяй такжа і Беларуская Сацыялістычная Радавая Рэспубліка.

Гісторыя стварэньня незалежнае Літоўскае Рэспублікі была шмат прасьцейшая. Як пры тварэньні незалежнае Польшчы, так і пры зачатках Літоўскае Рэспублікі, вялізарную ролю адыграла прыхільнасьць нямецкае ўлады да гэтых дзьвюх новых дзяржаваў. Але Літва ў разуменьні Нямеччыны павінна была мець зусім іншую географічную карту, чымся мае цяпер: немцы маніліся далучыць да яе блізу ўсю Заходнюю Беларусь, затое зусім ня зьбіраліся аддаваць літвіном Прускае Літвы і такога важнага пункту, як Клайпэда, што зачыняе выхад з Нёмна ў мора. Ня гледзячы на такое становішча Нямеччыны, ня гледзячы на доўгі час варожыя да Літвы адносіны дзяржаваў-пераможцаў, літоўскі народ сваімі ўласнымі рукамі здолеў аб'яднаць з сваей Рэспублікай, як Прускую Літву, так і Клайпэду, апошнім актам забясьпечыўшы сабе вольны выхад у мора. Але паўдзённыя ўзьмежкі Літвы (падвіленскія) разам з усёй Заходняй Беларусяй папалі пад уладу Польшчы.

Старыя гістарычныя сувязі паміж беларускім і літоўскім народамі ў часы незалежнага Беларуска-Літоўскага гаспадарства, пасьля супольная нядоля пад уладай чужынцаў, урэшце супольнасьць ідэалаў гэтых двух „мужыцкіх" народаў заўсёды былі падставай дзеля самых прыязных беларуска-літоўскіх адносінаў. На віленскім грунце беларускае і літоўскае грамадзянства асабліва зьбліжае тое бязпраўнае палажэньне, у якое паставіла нас і ўсе другія „нацыянальныя меншасьці" палітыка „дэмакратычнае" Польшчы, што разглядае „інародцаў", як „гной" дзеля „высокае польскае культуры" і імкнецца да поўнага зьніштажэньня іх нацыянальнае самабытнасьці. І вось, вітаючы нашых „таварышаў па няшчасьцю"—„польскіх" літвіноў з прычыны іх агульнанацыянальнага сьвята, мы шлём ім гарачае жычэньне быць стойкімі і нязломнымі ў настаўшыя для іх, як і для нас, часы ліхалецьця, цьвёрда веручы, што душы народу не здалее забіць і апаганіць ніякі ўціск, ніякія перасьледаваньні.

**А. Н.**

## Безрабоцьце.

У выніку буржуазнай санацыі скарбу ў Польшчы распачаўся нябывалы прамысловы крызіс. Сотні фабрык зачыняюцца, пазбаўляючы працы дзясяткі тысячаў работнікаў ува ўсіх прамысловых цэнтрах, асуджаючы іх сем'і на галодную сьмерць. Нядоля вызыскуемых работнікаў яшчэ больш павялічваецца; работніцкая кляса стаіць проста перад катастрофай; хроніка штодзенных газэт перапоўнена весткамі аб самагубствах з прычыны голаду.

Безрабоцьце—выклікане прамысловым крызісам, звычайнае зьявішча пры капіталістычным ладзе. Вытварыўшаяся гаспадарчая сітуацыя, у якой не апошнюю ролю сыграла т. зв. валёрызацыя, прывяла да таго, што тавары польскага вырабу сталі даражэйшымі, чым заграпічныя і дзеля гэтага збыт іх на заграпічных рынках спыніўся. Страшэннае абядненьне шырокіх слаёў насяленьня перашкаджае таксама збыту гэтых тавараў і на ўнутраным рынку. Вось дзеля чаго прамыслоўцы зачыняюць на пэўны час свае прадпрыемствы. На гэтай апэрацыі яны нічога ня трацяць, бо адсутнасьць тавараў на рынку дасьць ім магчымасьць яшчэ больш падняць цэны, а гэта для іх зьяўляецца яшчэ лепшым гешэфтам, чым вытворчасьць.

Абракаючы тысячы работнікаў на безрабоцьце, а іх сем'і на голад, холад і нэндзу, скарочаньне вытворчасьці цяжка адабіваецца і на шырокіх масах спажыўцоў, на тых-жа работніках і працоўным сялянстве. Таварны голад на рынках прымусіць сялянства плаціць яшчэ больш высокія цэны за патрэбныя яму рэчы. Безработныя масы гарадзкога насяленьня прымушаны будуць скарачаць свае патрэбы, тым самым скароціцца папыт на вырабы сельскай гаспадаркі і абнізіць цэны на сельска-гаспадарскія прадукты. Гэта ня значыць, што ў гарадох спадуць цэны на прадметы першай патрэбы, гэта выкарыстаюць толькі розных гатункаў спэкулянты, скупоўваючы па нізкім цэнам хлеб у сялянства, якое прымушана будзе прадаваць яго, каб плаціць звалёрызаваныя падаткі.

Аднача́сна з гэтым разьбіваецца з падвоенай сілай наступ капіталу, бо безрабоцьце стварае для эксплёататараў выключна карысны мамэнт для наступу. У пэрыяд застою адна толькі пагроза выдаленьня з фабрыкі зьмяншае адпорную сілу пралетарыяту. Лік сябраў прафэсыянальных саюзаў зьмяншаецца. Здольнасьць падтрыманьня праз іх бастуючых работнікаў шыбка падае. Гэта ўсё выкарыстоўвае капітал, які абрэзвае і без таго нэндзныя заработкі і рыхтуецца да замаху на найважнейшае заваяваньне міжнароднага пралетарыяту—на 8 гадз. дзень працы.

Аслабляючы адпорнасьць работнікаў з боку эканамічнага, безрабоцьце аслабляе і іх палітычную сілу. Работнікі гуртуюцца каля сваіх варштатаў працы. Сіла работнікаў—у згуртаваньні вялікіх масаў пралетарыяту на фабрыках, капальнях і г. д., і гэтае згуртаваньне дае пачуцьцё сілы і магчымасьць хуткай і прадуктыўнай мабілізацыі да змаганьня. І дзеля гэтага зусім не зьяўляецца прыпадкам, што пэрыяды безрабоцьця — гэта пэрыяды ўзмацаваньня рэакцыі і рэпрэсыяў. Не прыпадкова і тое,—што як раз у сучасны момант, калі фабрыкі спыняюць сваю працу, Хьена з вітасоўцамі супольна вядуць вострую кампанію ў прэсе аб скасаваньні „дэмакратычнай" марцовай канстытуцыі і такую зьмену выбарнага закону, каб аддаць Сойм выключна ў лапы „польскай народовай большасьці", г. зн. хьенскіх абшарнікаў і капіталістаў і вітасоўскіх паўпанкаў.

